Пралятары ўсіх краін, злучайцеся!



# БЮЛЯТЭНЬ САВЕТУ НАРОДНЫХ КАМІСАРАЎ БЕЛАРУСКАЙ САЦЫЯЛІСТЫЧНАЙ САВЕЦКАЙ РЭСПУБЛІКІ

Выдаецца Інфармацыйна-Выдавецкім Аддзелам Кіраўніцтва Спраў СНК і Эканамічнай Нарады (г. Менск, Чырвонаармейская вул. № 3). — Падпісная плата на год 5 р. і на 1/2 г. 2 р. 50 к.

VI-ы ГОД ВЫДАНЬНЯ

№ 19 (93) | 5 верасьня 1930 г. | № 19 (93)

## Пастанова Народнага Камісарыяту Працы БССР.

### Паст. 154. Пра мабілізацыю інжынэрна-тэхнічнага пэрсаналу па жывёлагадоўчаму будаўніцтву.

Для забясьпечаньня выкананьня праграмы разгортваньня жывёлагадоўлі і мясных саўгасаў і забясьпечаньня пабудовамі жывёлы, паступаючай па лініі Сьвінаводтрэсту, Белсельтрэсту і сельска-гаспадарчай капярацыі, НК Працы БССР, паводле пастановы СНК БССР за 14/VIII-1930 г., пастанаўляе:

1. Мабілізаваць на жывёлагадоўчае і сьвінагадоўчае будаўніцтва НКЗ БССР з інжынэрна-тэхнічнага пэрсаналу па лініі Будаб'яднаньня ВСНГ БССР—6 чалавек, па Белжылсаюзу—6 чалавек і Менбуду—3 чалавекі.

2. Будаб'яднаньню, Белжылсаюзу і Менбуду пад асабістую адказнасьць іх кіраўнікоў на працягу 3-х дзён вылучыць паказаную колькасьць інжынэраў і тэхнікаў будаўнікоў у распараджэньне Наркамзему БССР.

3. Інжынэры і тэхнікі мабілізуюцца на тэрмін да 1 кастрычніка 1930 г.

4. Мабілізаваныя захоўваюць пэнсію, атрымліваюць звыш пэнсіі па 3 р. сутачных, фактычны кошт кватэрнае платы, але ня звыш 2 р. у суткі, аплату за праезд па чыгунцы альбо па воднаму шляху—за кошт зацікаўленых арганізацый НКЗ БССР.

5. Мабілізаваныя накіроўваюцца на працу па паказаньні сэктару індустрыялізацыі НКЗ БССР.

Народны Камісар Працы БССР **М. Гнілякевіч.**

Старшы Інспэктар па Сэзонных галінах народнай гаспадаркі НКП БССР **З. Іоффэ.**

15 жніўня 1930 г.
№ 45.

## Пастанова народных камісарыятаў Юстыцыі і Фінансаў БССР.

### Паст. 155. Пра дапаўненьне „Правілаў пра аплату натарыяльных дзеяньняў і тэхнічных паслуг сельскіх, местачковых і гарадзкіх саветаў“.

Для ўзгадненьня з правіламі арт. 84 Кодэксу пра ільготы для вайскоўцаў і вайскоўаабавязаных Рабоча-Сялянскай Чырвонай Арміі і іх сем'яў (З. З. СССР 1930 г. № 23, арт. 253) народныя камісарыяты Юстыцыі і Фінансаў БССР пастанаўляюць дапоўніць арт. 3 „Правілаў пра аплату натарыяльных дзеяньняў і тэхнічных паслуг сельскіх, местачковых і гарадзкіх саветаў“ Бюл. СНК БССР 1930 г. № 10, п. 110) пунктам „л“ наступнага зьместу:

„л) вайскоўцы кадравага радавога і малодшага начальніцкага складу тэрміновай службы звальняюцца ад натарыяльнага збору:

1) за пасьведчаньне даручэньняў на вядзеньне спраў у судовых і адміністрацыйных ўстановах, а таксама даручэньняў на атрыманьне заработнай платы і на атрыманьне грашовай, паштовай і пасылачнай карэспандэнцыі;

2) за пасьведчаньне копій і дакумэнтаў, якія падаюцца ў дзяржаўныя ўстановы і грамадзкія арганізацыі".

Нам. Народнага Камісара Юстыцыі БССР **Н. Міхайлаў.**

Народны Камісар Фінансаў БССР **В. Мікуліч.**

15 жніўня 1930 г.
№ 33.

## Пастанова народных камісарыятаў Юстыцыі, Унутраных Спраў і Фінансаў БССР.

### Паст. 156. Пра органы, якім павінна даручацца выкананьне пастаноў аб спагнаньні даўгоў непадатковага характару ў адміністрацыйным парадку.

Для ўстанаўленьня адзінай практыкі правядзеньня спагнаньня ў адміністрацыйным (бясспрэчным) парадку даўгоў па дакумэнтах і дагаворах, паказаных у пунктах „а"—„г" арт. 1 пастановы ЦВК і СНК БССР за 11 студзеня 1930 г. „Пра спагнаньне ў бясспрэчным парадку бяз выдачы судовага загаду даўгоў дзяржаўным установам і прадпрыемствам і каперацыйным арганізацыям" (З. З. БССР 1930 г. № 6, п. 34) і ў разьвіцьцё арт. 4 паказанай вышэй пастановы, народныя камісарыяты Юстыцыі, Унутраных Спраў і Фінансаў БССР п а с т а н а ў л я ю ц ь:

1. На падставе арт. 4 пастановы ЦВК і СНК БССР за 11 студзеня 1930 г. „Пра спагнаньне ў бясспрэчным парадку бяз выдачы судовага загаду даўгоў дзяржаўным установам і прадпрыемствам і каперацыйным арганізацыям" (З. З. БССР 1930 г. № 6, п. 34) выкананьне вынесеных на падставе паказанай пастановы загадаў аб спагнаньні даўгоў у адміністрацыйным парадку ўскладаецца на наступныя органы:

а) на адміністрацыю (распарадчыкаў крэдытаў) установ і прадпрыемстваў, а таксама і кіраўніцтвы грамадзкіх і каперацыйных (у тым ліку і калгасаў) арганізацый—у выпадках, калі спагнаньне трэба рабіць з заработнай платы даўжніка-служачага або рабочага альбо з заработку даўжніка—члена калгасу;

б) на прэзыдыум сельскага савету—калі спагнаньне накіроўваецца на маемасьць даўжніка, якая знаходзіцца ў межах сельскага савету і калі сума спагнаньня ня больш ста (100) рублёў;

в) на органы міліцыі—ва ўсіх іншых выпадках.

2. Установы і арганізацыі, якім дадзена права спаганяць належныя ім сумы ў бясспрэчным (адміністрацыйным) парадку, пасьля сканчэньня прадастаўленага даўжніку тэрміну на дабравольнае пагашэньне доўгу, перадаюць для выкананьня свае загады аб спагнаньні беспасрэдна альбо распарадчыку крэдытаў установы ці прадпрыем-

ства, альбо старшыні кіраўніцтва калгасу або іншай каперацыйнай арганізацыі, альбо старшыні сельсавету ці начальніку раймііцыі ў залежнасьці ад таго, на якія сродкі даўжніка накіроўваецца спагнаньне (арт. 1 гэтай пастановы).

3. Спагнаньне з заработнай платы рабочых і служачых і з заработку членаў калгасаў робіцца па правілах разьдзелу XXXIV Грамадзянскага Працэсуальнага Кодэксу (ГПК 1930 г. і „Савецкая Беларусь“ 1930 г. № 119) і выдадзенай у разьвіцьцё гэтага разьдзелу інструкцыі.

Спагнаньне з іншых відаў маемасьці робіцца на падставе правіл Палажэньня пра спагнаньне падаткаў.

4. Міліцыя атрымлівае за выканальныя дзеяньні плату паводле правіл аплаты дзеяньняў па выкананьні судовых рашэньняў і загадаў.

Нам. Народнага Камісара Юстыцыі
і Старшыня Найвышэйшага Суда БССР **Н. Міхайлаў.**

За Народнага Камісара Унтраных Спраў БССР **С. Якубчык.**

Нам. Народнага Камісара Фінансаў БССР **Л. Бунін.**

15 жніўня 1930 г.
№ 34.

## Абежнік Народнага Камісарыяту Фінансаў БССР і Усебеларускай канторы Дзяржаўнага Банку.

**Паст. 157. Аб правілах правядзеньня грашовых выдач па ордэнах Саюзу ССР і па ганаровай рэвалюцыйнай зброі.**

*Усім Установам Дзяржбанку, Гарадзкім Саветам і Раённым Выканаўчым Камітетам БССР.*

Пры гэтым дасылаюцца для кіраваньня і выкананьня ўзгодненыя з Дзяржаўным Банкам і Галоўным Кіраўніцтвам Дзяржаўнымі Ашчаднымі Касамі і зацьверджаныя Народным Камісарыятам Фінансаў Саюзу ССР 14-га ліпеня 1930 г., „Правілы пра грашовыя выдачы па ордэнах“. Адначасова зварочваецца ўвага на тое, што да вытварэньня на мясцох прадугледжаных гэтымі правіламі грашовых выдач памянёныя ў правілах (арт. 3) касавыя ўстановы приступаюць толькі пры прад'яўленьні ім узнагароджанымі асабовых ордэнскіх кніжак, рассылка якіх будзе неўзабаве распачата Сакратарыятам Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР і Галоўным Кіраўніцтвам Рабоча-Сялянскай Чырвонай Арміі.

Нам. Народнага Камісара Фінансаў БССР **Л. Бунін.**

Усебеларуская Кантора Дзяржбанку **И. Станкевіч.**

25 жніўня 1930 г.
№ 2412.

**Дадатак**

Зацьвярджаю.
14 ліпеня 1930 г.
Н. Бруханаў.

## Правілы № 553 правядзеньня грашовых выдач па ордэнах Саюзу ССР і па ганаровай рэвалюцыйнай зброі.

1. Правам на атрыманьне ўстаноўленых артыкулам 14 Палажэньня аб ордэнах Саюзу грашовых выдач у разьмеры 30 руб. у месяц па першаму ордэну Саюзу альбо ганаровай рэвалюцыйнай зброі з накладзеным на ёй знакам ордэну „Чырвоны Сьцяг“ і ў разьмеры 25 руб. па кожнаму наступнаму—карыстаюцца асобы, якія нагароджаны наступнымі ордэнамі Саюзу ССР: „Ордэн ЛЕНІНА“, „Чырвоны Сьцяг“, „Працоўны Чырвоны Сьцяг“ і „Чырвоная Зьвязда“, а таксама асобы, якія атрымалі ганаровую рэвалюцыйную зброю з накладзеным на яе знакам ордэну „Чырвоны Сьцяг“.

Права гэта распаўсюджваецца таксама на асоб, якія ўзнагароджаны ордэнамі „Чырвоны Сьцяг“ і „Працоўны Чырвоны Сьцяг“ РСФСР да ўтварэньня Саюзу ССР.

Грашовыя выдачы па ордэнах вытвараюцца звыш атрымоўваемай узнагароджанымі зарплаты, утрыманьня па службе ў РСЧА і пэнсіі.

2. Пачатковым тэрмінам для выдач па ордэнах Саюзу і ганаровай рэвалюцыйнай зброі зьяўляюцца: а) для асоб, узнагароджаных ордэнамі Саюзу ССР альбо падлягаючымі абмену на іх ордэнамі РСФСР, якія даны да ўтварэньня Саюзу, а таксама ганаровай рэвалюцыйнай зброяй з накладзеным на яе знакам ордэну „Чырвоны Сьцяг“ да выданьня Палажэньня аб ордэнах Саюзу (пастанова ЦВК і СНК Саюзу ССР за 30 красавіка 1930 г.)—1-га мая 1930 г. і б) для асоб, якія узнагароджаны ордэнамі Саюзу ССР альбо ганаровай рэвалюцыйнай зброяй пасьля 30 красавіка 1930 г.— першы дзень месяца, наступнага за тым, у якім адбылася пастанова пра ўзнагароджаньне.

3. Грашовыя выдачы па ордэнах вытвараюцца ўсімі ўстановамі Дзяржбанку, усімі знаходзячыміся з імі ў карэспандэнцкіх адносінах сельска-гаспадарчымі крэдытнымі таварыствамі, усімі ваенна-акруговымі касамі, усімі акруговымі і раённымі ашчаднымі касамі, адзяленьнямі іх і прыпіснымі касамі (з чыгуначных ашчадных кас выдачы робяць толькі цэнтральныя касы пры праўленьнях чыгункі) за лік састаячых на рахунках Фінансава-Бюджэтнага Кіраўніцтва НКФ Саюзу СССР крэдыту па каштарысу НКФ Саюзу ССР на гэтыя выдачы, які крэдыт на месцы не разасыгноўваецца.

Узнагароджаны за належачымі яму грашовымі выдачамі па ордэнах можа зьвярнуцца ў адну з паказаных у гэтым артыкуле касавых установ, якая здавальняе яго з агульнай сваёй наяўнасьці штомесячна, пачынаючы з першага чысла таго месяца, за які яму прылічваецца выдача.

4. Дакумэнтам, які ўпаўнаважвае паказаную ў арт. 3 касавую ўстанову на правядзеньне грашовых выдач па ордэнах Саюзу ССР альбо ганаровай рэвалюцыйнай зброі зьяўляецца прад'яўляемая узнагароджаным пры кожным атрыманьні асабовая ордэнская кніжка з фатаграфічнай карткай узнагароджанага із узорам яго подпісу. Ніякіх папярэдніх асыгнаваньняў на касавыя ўстановы на правядзеньне

паказаных выдач ня робіцца. Без прад'яўленьня асабовай ордэнскай кніжкі узнагароджанага ніякія выдачы ня робяццаі страта кніжкі цягне за сабою спыненьне выдачы аж да атрыманьня новай асабовай ордэнскай кніжкі.

Увага. Ад атрымальнікаў, якія невядомы касе, якая вытварае выдачу, а таксама ва усіх выпадках, узбуджаючых сумненьне, каса патрабуе, звыш асабовай ордэнскай кніжкі, таксама прад'яўленьня іншага асабовага пасьведчаньня узнагароджанага (партыйнага альбо прафсаюзнага білету, асабовага пасьведчаньня, якое выдаецца міліцыяй, пасьведчаньня дамкому, раённага выканаўчага камітэту альбо сельскага савету).

5. Асабовыя ордэнскія кніжкі, якія зьяўляюцца ўпаўнаважаньнем касам на вытварэньне грашовых выдач па ордэнах Саюзу ССР і па ганаровай рэвалюцыйнай зброі, выраблюцца Дзяржзнакам па ўстаноўленаму ўзору і выдаюцца асобам, узнагароджаным ордэнамі „Чырвоны Сьцяг", „Чырвоная Зьвязда" і ганаровай рэвалюцыйнай зброяй —Галоўным Кіраўніцтвам Рабоча-Сялянскай Чырвонай Арміі і узнагароджаным ордэнамі „Ордэн Леніна" і „Працоўны Чырвоны Сьцяг"— Сакратарыятам Прэзыдыуму Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу.

6. Для атрыманьня асабовых ордэнскіх кніжак узнагароджаныя ордэнамі „Чырвоны Сьцяг" і „Чырвоная Зьвязда" і ганаровай рэвалюцыйнай зброяй пасылаюць у Галоўнае Кіраўніцтва Рабоча-Сялянскай Чырвонай Арміі (Масква, вуліца Фрунзэ, 1-ы Дом Рэўваенсавету), а нагароджаныя ордэнамі „Ордэн Леніна" і „Працоўны Чырвоны Сьцяг"—у Сакратарыят Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу (Масква, Крэмль, ЦВК Саюзу ССР)—а) пасьведчаныя копіі грамат альбо паведамленьняў пра ўзнагароду ордэнам альбо ганаровай рэвалюцыйнай зброяй; б) дзьве фатаграфічныя карткі разьмерам 4-х 5 сантымэтраў, в) наступныя зьвесткі: 1) нумар ордэну, 2) аб сваёй нацыянальнай і партыйнай прыналежнасьці і 3) свой падрабязны адрас.

7. Асабовыя ордэнскія кніжкі выдаюцца на пяць год; у кожнай кніжцы знаходзіцца 60 купонаў з друкаваным адзначэньнем на кожным купоне—месяца і належачай да выдачы сумы, калі яна складае 30 р. у месяц. Для асоб, узнагароджаных двумя і больш ордэнамі, сума належных месячных выдач прастаўляецца рукою ўстановамі, якія выдаюць ордэнскую кніжку.

Кожны купон асабовай ордэнскай кніжкі складаецца з двух частак: а) адрэзку, які адлучаецца ад кніжкі касаю, вытвараючай выдачу, на якім адрэзку адбіраецца расьпіска атрымальніка альбо ўпаўнаважанай ім на атрыманьне грошай асобы і б) каренчыка чарговага купону, які застаецца ў кніжцы, на якім касаю адзначаецца выдача з паказаньнем яе даты. Пры атрыманьні грашовых выдач па ардэнах Саюзу альбо ганаровай рэвалюцыйнай зброі ня з 1-га студзеня, а з першых лічбаў месяцаў, наступных за датай узнагароджаньня, папярэднія таму месяцу, за які выдача ў першы раз ажыцьцяўляецца, чарговыя купоны ўстановамі, якія выдаюць асабовыя ордэнскія кніжкі (арт. 5), адразаюцца і пагашаюцца.

Увага. У асабовых ордэнскіх кніжккх, якія падлягаюць выдачы ў 1930 г., купоны пачынаюцца з майскага, так што ў гэтых кніжках знаходзіцца ня 60, а толькі 56 купонаў.

8. Пры прад'яўленьні асабовай ордэнскай кніжкі ў касу, касавая ўстанова (арт. 3). упэўніўшыся ў самаасабістасьці атрымальніка, устанавіўшы за тым на карэнчыках купонаў час, за які ўзнагароджаны грашовымі выдачамі ўжо здаволен, вытварае як чарговую месячную выдачу, так і выдачу па неаплачаных яшчэ купонах сышоўшых тэрмінаў, адбіраючы расьпіскі атрымальніка на адрэзках чарговых купонаў, якія застаюцца ў касе ў якасьці расходнага дакумэнту і адзначае выдачу з паказаньнем даты на карэнчыках купонаў у асабовай ордэнскай кніжцы, якая зварочваецца.

9. Установы Дзяржаўнага Банку і ваенна-акруговыя касы ўсе вытвараныя імі грашовыя выдачы па ордэнах Саюзу ССР і ганаровой рэвалюцыйнай зброі, адносяць на рахунак НКФ па бюджэту Саюзу ССР; знаходзячыся з Дзяржбанкам у карэспандэнцкіх умовах сельска-гаспадарчыя крэдытныя т-вы праводзяць выдачы па карэспандэнцкаму рахунку з адпаведнымі ўстановамі Дзяржаўнага Банку, адсылаючы ў гэта апошняе аплачаныя купоны штодзённа; ашчаднымі касамі расход па ордэнскіх выдачах вытвараецца па рахунку з Галоўным Кіраўніцтвам Дзяржаўнымі Ашчаднамі Касамі Саюзу ССР з наступным пакрыцьцём выдадзеных сум парадкам, паказаным далей у артыкулах 15-16 гэтых правілаў.

10. У выпадку выплаты грашовых выдач па ордэнах Саюзу альбо ганаровай рэвалюцыйнай зброі не самім узнагароджаным, а ўпаўнаважаным імі асобам альбо назначаным над імі апякунам (у выпадку душэўнага расстройства альбо па іншых прычынах), апроч асабовай ордэнскай кніжкі ў касавую ўстанову прадстаўляюцца пасьведчаныя ўстаноўленым парадкам у натарыяльных канторах, органах міліцыі, выканаўчых камітэтах (альбо іншых органах, якія маюць права на гэта), даручэньні альбо дакумэнты аб апякунстве. Даручэньні на атрыманьне грошай могуць рабіцца і на адвароце чарговага купону на асобнай яго частцы, якая мае адпаведны друкаваны тэкст.

11. Высылка поштай грашовых выдач па ордэнах Саюзу ССР альбо па ганаровай рэвалюцыйнай зброі не дапушчаецца.

12. У выпадку сьмерці ўзнагароджанага ордэнам Саюзу ССР альбо ганаровай зброі, належачыя яму па ордэну Саюзу альбо ганаровай рэвалюцыйнай зброі, грашовыя выдачы як за мінулы час, так і за бягучы месяц, неатрыманыя ім з прычыны сьмерці, выплачваюцца членам сям'і памершага, якія знаходзіліся на яго ўтрыманьні, пры чым за той месяц, у якім наступіла сьмерць, належачая сума выплачваецца цалкам, пасьля чаго грашовыя выдачы па ордэну альбо ганаровай рэвалюцыйнай зброі памершага спыняюцца.

Для атрыманьня грашовых выдач па ордэнах і зброі ў парадку гэтага артыкулу сям'я памёршага падае ў касавую ўстанову адпаведную заяву, прыкладаючы да яе, апроч асабовай ордэнскай кніжкі, а) пасьведчаньне аб сьмерці ўзнагароджанага і б) пасьведчаньне аб складзе сям'і з паказаньнем ўтрыманцаў.

Асабовая ордэнская кніжка ў паказаным выпадку адбіраецца касаю і адсылаецца ўстанове, якая выдала кніжку (арт. 5).

13. У выпадку страты, крадзяжу альбо зьнішчэньня асабовай ордэнскай кніжкі, уласьнік яе абавязан неадкладна паведаміць аб гэтым касавую ўстанову, якая звычайна вытварае яму грашовыя выдачы, на выпадак прад'яўленьня ў гэту ўстанову ўкрадзенай альбо згубленай ордэнскай кніжкі іншымі асобамі, ад якіх яна ў той час

касаю адбіраецца, а таксама зрабіць за свой кошт у мясцовай афіцыйнай газэце публікацыю аб страце. Затым за атрыманьнем новай асабовай ордэнскай кніжкі страціўшы яе грамадзянін, з дадаткам да сваёй заявы квітка аб уносе грошай на публікацыю, зварочваецца ў тую ўстанову, ад якой ён атрымаў сваю асабовую ордэнскую кніжку (арт. 5). Да заявы гэтай далучаюцца ўсе паказаныя ў арт. 6 гэтых правілаў дакумэнты.

Атрымаўшы заяву з усімі прыкладзенымі да яе дадаткамі (арт. 6), Галоўнае Кіраўніцтва Рабоча-Сялянскай Чырвонай Арміі альбо Сакратарыят Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу загатаўляюць новую ордэнскую кніжку і высылаюць яе па паказаным узнагароджаным адрасу. Выдача грошай па новай асабовай ордэнскай кніжцы, выдадзенай замест страчанай альбо украдзенай ці зьнішчанай, вытвараецца толькі з першага дня месяца наступнага за датай выдачы новай кніжкі, у адпаведнасьці з чым, адпаведныя чарговыя купоны ўстанова, якая выдае новую кніжку, зразае і пагашае.

14. Сумы вытвараных установамі Дзяржаўнага Банку грашовых выдач па ордэнах Саюзу ССР альбо па ганаровай рэвалюцыйнай зброі, а таксама гэткіх-жа выдач зробленых за лік адпаведнай установы Дзяржаўнага Банку знаходзячыміся з ёю ў карэспандэнцкіх адносінах сельска-гаспадарчымі крэдытнмі таварыствамі, штомесячна падлічваюцца адпаведнымі ўстановамі Дзяржаўнага Банку (за сябе і сваіх карэспандэнтаў) і паведамляюцца сваім патраніруючым канторам у відзе асобнага дадатку да папярэдняй касавай справаздачы, а канторамі—ў зводным відзе, а таксама ваенна-акруговымі касамі за сябе—Праўленьню Дзяржаўнага Банку.

Праўленьне Дзяржаўнага Банку агульны ітог выдач па ўсяму Саюзу паведамляе штомесячна Народнаму Камісарыяту Фінансаў Саюзу ССР.

Паказаны асобны дадатак, у якім зьмяшчаецца месячная сума зробленых выдач, далучацца да паштовай справаздачы, першапачатковай альбо служачай падмацаваньнем тэлеграфнай папярэдняй касавай справаздачы.

У справаздачы гэтай паказаныя выдачы ўключаюцца ў № 98 „розныя іншыя сьпісаньні“.

15. Аплачаныя дзяржаўнымі ашчаднымі касамі купоны грашовых выдач па ордэнах Саюзу альбо па ганаровай рэвалюцыйнай зброі накіроўваюцца ва ўстаноўленыя Галоўным Кіраўніцтвам Дзяржаўнымі Ашчаднымі Касамі Саюзу з якімі штомесяц разьлічваецца па гэтых выдачах Фінансава-Бюджэтнае Кіраўніцтва Народнага Камісарыяту Фінансаў Саюзу за лік паказанага ў артыкуле 3 крэдыту па каштарысу Народнага Камісарыяту Фінансаў Саюзу ССР.

16. З 1930-31 бюджэтнага году ў адносінах разрахункаў па выплачваемых праз дапамогу дзяржаўных ашчадных кас грашовымі выдачамі па ордэнах Саюзу і ганаровай рэвалюцыйнай зброі ўстанаўляецца наступны парадак. Фінансава-Бюджэтнае Кіраўніцтва Народнага Камісарыяту Фінансаў Саюзу штомесяц, не пазьней 15-га дня папярэдняга плацёжнаму месяцу, пералічаюць авансам на бягучы рахунак Галоўнага Кіраўніцтва Дзяржаўнымі Ашчаднымі Касамі ў Маскоўскай Абласной Канторы Дзяржаўнага Банку неабходную на выдачу ў наступным месяцы арыентыровачную суму; сума гэта вызначаецца па даных аб фактычных выдачах, вытвараных ашчадкасамі за

май-верасень месяцы 1930 г., і характарызуюцца наступнымі данымі аб разьмеры выдач. З устанаўленьнем такога парадку, устаноўленая арт. 15 высылка аплачаных дзяржаўнымі ашчаднымі касамі купонаў у Галоўнае Кіраўніцтва Дзяржаўнымі Ашчаднымі касамі захоўваецца, бо па іх Галоўнае Кіраўніцтва будзе адлічвацца перад Фінансава-Бюджэтным Кіраўніцтвам Народнага Камісарыяту Фінансаў Саюзу ССР ў адпушчаных у парадку гэтага артыкулу арыентыровачных авансаў.

17. Падлік грашовых выдач па ордэнах Саюзу і ганаровай рэвалюцыйнай зброі агульнымі па Саюзу ітогамі ажыцьцяўляецца Народным Камісарыятам Фінансаў Саюзу па даных, якія дастаўляюцца Праўленьнем Дзяржаўнага Банку (арт. 14) і Кіраўніцтвам Дзяржаўнымі Ашчаднымі Касамі Саюзу (арт. 15). Атрыманыя даныя (ітогавыя) супастаўляюцца Народным Камісарыятам Фінансаў Саюзу са зьвесткамі аб ліку асоб, узнагароджаных ордэнамі Саюзу і ганаровай рэвалюцыйнай зброяй.

Для ажыцьцяўленьня паказанага супастаўленьня Галоўнае Кіраўніцтва РСЧА і Сакратарыят Прэзыдыуму Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР паведамляюць Фінансава-Бюджэтнаму Кіраўніцтву НКФ Саюзу, ва ўстаноўленыя па ўзаемнай згодзе тэрміны, зьвесткі аб ліку асоб, узнагароджаных ордэнамі Саюзу ССР і ганаровай рэвалюцыйнай зброяй, атрымаўшым праз іх дапамогу асабовыя ордэнскія кніжкі, аб усіх новых узнагароджаньнях, а таксама ўсе маючыяся ў іх даныя аб убылі узнагароджаных ордэнамі альбо ганаровай зброяй (за сьмерцьцю і па іншых выпадках).

18. Грашовыя выдачы па ордэнах Саюзу і па ганаровай рэвалюцыйнай зброі грамадзянам, якія знаходзяцца за мяжой, робяцца за лік вылучаемага для гэтага і таксама на месцы не разасыгноўваемага, а застаўляемага на рахунках Фінансава-Бюджэтнага Кіраўніцтва НКФ Саюзу асобнага крэдыту ў замежнай валюце для выплат па ордэнах. Выплаты гэтыя ў месячных сумах вытвараюцца ў парадку гэтых правілаў праз консульствы альбо консульскія аддзелы паўнамоцных прадстаўніцтваў СССР за мяжой, якімі расьпіскі ў атрыманьні валюты адбіраюцца на адрэзках чарговых купонаў ордэнскай кніжкі, якія высылаюцца затым у Фінансава-Бюджэтнае Кіраўніцтва НКФ па сканчэньні кожнага кварталу. Аб часе выплаты валюты паказаныя ўстановы робяць адзнакі на карэнчыку купонаў ордэнскай кніжкі.

19. Аб пераводзе за мяжу патрэбных для такіх выдач сум інвалюты, адпаведныя ўстановы зварочваюцца ў Фінансава-Бюджэтнае Кіраўніцтва НКФ Саюзу СССР, якім і выпаўняюцца пераводы ў адрас консульстваў альбо консульскіх аддзелаў поўнамоцных прадстаўніцтваў у межах квартальных асыгнаваньняў.

Увага. Па згодзе з Дзяржаўным Банкам выплата гэтых выдач у парадку гэтых правілаў, можа быць ускладзена таксама і на карэспандэнтаў Дзяржаўнага Банку за мяжой.

20. Па звароце з-за мяжы ўзнагароджанага, які атрымоўвае грашовыя выдачы па ордэну альбо ганаровай рэвалюцыйнай зброі ў інвалюце, да яго ў СССР дапасоўваецца агульны паказаны ў гэтых правілах парадак.

21. Сумы, неабходныя для выплаты грошай па ордэнах і ганаровай зброі за мяжой, прадугледжваюцца Фінансава-Бюджэтным Кіраўніцтвам Народнага Камісарыяту Фінансаў Саюзу па адзінаму дзяржаўнаму бюджэту ў складзе валютных асыгнаваньняў.

## Абежнік Падатковага Кіраўніцтва Народнага Камісарыяту Фінансаў БССР.

### Паст. 158. Пра парадак налічэньня с.-г. падатку з савецкіх гаспадарак.

*Усім РВК БССР. Копія—Акрфінаддзелам і Віцебскаму АВК.*

Паводле § 237 інструкцыі па с.-г. падатку, падатак саўгасам налічаюць акрфінаддзелы, пры чым (арт. 3 Палажэньня) ужываецца сярэдняя стаўка с.-г. падатку на 1 рубель даходу па данай акрузе. У зьвязку з ліквідацыяй часткі і надыходзячай ліквідацыяй рэшты акруг гэты парадак скасоўваецца. С.-г. падатак саўгасам павінны налічаць РВК па сярэдняй раённай стаўцы на рубель абкладаемага даходу. РВК выпісваюць ім і акладныя лісты і спаганяюць з іх падатак.

Для атрыманьня сярэдняй раённай стаўкі с.-г. падатку трэба скласьці сумы налічанага с.-г. падатку па ўсіх катэгорыях гаспадарак данага раёну (у тым ліку па калгасах і па усіх катэгорыях вызваленых ад с.-г. падатку) і падзяліць ітог на суму абкладаемага даходу па гэтых самых катэгорыях гаспадарак.

У раённую сводку ф. № 2 па с.-г. падатку, дасылаемую у НКФ, трэба ўключыць і саўгасы паводле правілаў, якія дадзены ў свой час усім акрфінаддзелам.

Падатковае Кіраўніцтва НКФ БССР:

*Айзінсон.*
*Кірык.*

17 жніўня 1930 г.
№ 3101-7.

## Інструкцыя Народнага Камісарыяту Фінансаў і Кіраўніцтва Дзяржаўнага Страхаваньня БССР.

### Паст. 159. Пра збор плацяжоў і справаздачнасьць па абавязковым акладным страхаваньні ў 1930/1931 г.

Дакумэнты, па якіх прымаюцца акладныя страхавыя плацяжы.

§ 1. Органы, на якія ўскладзен прыём плацяжоў па абавязковым акладным страхаваньні (сельскія і местачковыя саветы, а таксама іншыя ўстановы, якія прымаюць с./г. падатак), прымаюць іх ад страхавальнікаў на падставе акладных страхавых лістоў (паведамленьняў).

Адзнакі ў акладных страхавых лістох аб атрыманьні плацяжоў.

§ 2. Пры кожным атрыманьні ад страхавальнікаў акладных страхавых плацяжоў робіцца адзнака аб гэтым на страхавых акладных лістох (паведамленьнях) за подпісам асобы, што атрымала грошы, і накладаецца пячатка ўстановы, якая прымае грошы.

Атрымліваць грошы без адзнакаў на страхавых акладных лістох паведамленьнях) альбо выдаваць расьпіскі або квіты ў атрыманьні грошай забараняецца.

Увага. Установы банку могуць прымаць страхоўку і без акладных лістоў (паведамленьняў) на падставе плацежных аб'яў, паводле касавых правіл. Адзнаку аб пасланых праз пошту страхавых плацяжох замяняе квіт апошняй.

Разьмеркаваньне атрыманай сумы паміж нядоімкай і акладам.

§ 3. Пры атрыманьні страхавых пляцяжоў перш за ўсё папаўняецца нядоімка з пеняй, калі яна лічыцца за страхавальнікам. Лішак-жа, што застанецца пасьля пагашэньня нядоімкі з пеняй, залічаецца ў аклад.

§ 4. Нясплачаны да ўстаноўленага тэрміну аклад страхавых плацяжоў лічыцца нядоімкай і на яе налічваецца пеня ў разьмеры 0,2% за кожны дзень пратэрміноўкі для індывідуальных гаспадарак, і ў разьмеры 0,1 проц. за кожны дзень пратэрміноўкі для калгасаў і каператываў 1-й ступені. Пеня налічваецца на поўныя рублі нядоімкі, прычым 50 і больш кап. нядоімкі лічацца за рубель, а менш 50 кап. пры вылічэньні пені ў рахунак не бярэцца.

Складаньне рэестраў платнікаў.

§ 5. Адначасова з адзнакай на страхавым акладным лісьце аб выплаце страхавых плацяжоў, асоба, атрымаўшая грошы, запісвае атрыманую суму ў рэестры паступленьня плацяжоў сельскагаспадарчага падатку і акладнога страхаваньня. Рэестр заводзіцца асобны на кожны дзень прыёму акладных страхавых плацяжоў і вядзецца ў 2-х экзэмплярах, асобна па сельскаму і асобна па гарадзкому страхаваньню.

§ 6. Пасьля сканчэньня аперацыйнага дня падлічваюцца па рэестрах атрыманыя сумы (нядоімкі, акладу, пені і разам). Правільнасьць падрахунку сьведчыцца подпісам адказных работнікаў устаноў і асобамі, якія прымалі грошы.

Здача сельскімі і местачковымі саветамі атрыманых сум.

§ 7. Сельскія і местачковыя саветы атрыманыя імі ад страхавальнікаў сумы плацяжоў здаюць у тэрміны, вызначаныя РВК, у касы, на якія ўскладзен прыём сельска-гаспадарчага падатку і страхавых плацяжоў.

Каса правярае правільнасьць падрахункаў па графах рээстру і сваечасовасьць здачы грошай.

Аб атрыманьні грошай робяцца адпаведныя надпісы на абодвых экзэмплярах рээстру, за подпісам касіра і бухгальтара.

Адзін экзэмпляр рээстру застаецца ў касе ўстановы, якая прыняла грошы, а другі зварочваецца сельскаму або местачковаму савету.

Падлік страхавых пляцяжоў.

§ 8. Сельскі і местачковы савет вядзе асабовы рахунак кожнага платніка на адвароце карткі ф. № 1-а па с.-г. падатку (а па калгасах—на адвароце карткі ф. № 1-б), якія ёсьць у сельскіх і мес-

тачковых саветах. Асновай для вядзеньня асабовых рахункаў служаць рэестры. Пасьля разьнясеньня па асабовых рахунках сум, паказаных у рэестрах, на іх робіцца адзнака „Занесена ў асабовы рахунак“.

Увага. Падлік плацяжоў ў гарадох вядзецца па асабовых рахунках акл. Ф. № 4.

§ 9. Дапрылічаныя або выключаныя сумы акладных страхавых плацяжоў адзначаюцца ў адпаведных радкох асабовага рахунку.

§ 10. Для падліку акладных страхавых плацяжоў раённыя выканаўчыя камітэты вядуць рахункі па кожнаму сельскаму і местачковаму савету (гораду) свайго раёну. Падлік вядзецца асобны: а) па калгасах, б) па індывідуальных працоўных гаспадарках і в) па кулацкіх гаспадарках.

Дапрылічаныя, выключаныя і зьнятыя сумы акладных страхавых плацяжоў падлічваюцца раённымі выканаўчымі камітэтамі на падставе зьвестак, якія павінны давацца ў канцы кожнага месяца сельскімі і местачковымі саветамі.

§ 11. Калі за страхавальнікам, пераплаціўшым страхавыя плацяжы, лічыцца нядоімка па іншых плацяжох (с.-г. падатак, самаабкладаньне і інш.), дык пераплата страхавых плацяжоў залічваецца на пагашэньне гэтай нядоімкі. У гэтым выпадку пераплата выпісваецца ў выдатак па страхоўцы і адначасова запісваецца на прыбытак па адпаведнаму плацяжу.

Увага. Зьняцьце па тых або іншых прычынах страхавых плацяжоў і зварот іх робяцца выключна сельскімі і местачковымі саветамі і раённымі выканаўчымі камітэтамі.

### Паведамленьне с/саветаў аб атрыманьні плацяжоў іншымі ўстановамі.

§ 12. Усе ўстановы, якія прымаюць акладныя страхавыя плацяжы, пасылаюць сельскім і местачковым саветам (у гарадох—Гарфа) другі экзэмпляр рэестру на сумы плацяжоў, якія паступаюць непасрэдна ў касы гэтых устаноў, для адзнакі паступіўшых сум у асабовых рахунках платнікаў.

§ 13. Атрыманыя страхавыя плацяжы ад платнікаў іншых раёнаў запісваюцца ў асобныя рэестры, складзеныя ў 2-х экзэмплярах па кожнаму раёну, з адзнакай ва ўвазе рэестру, з якога с./савету платнік.

Адзін экзэмпляр рэестру застаецца ў касе ўстановы, якая прыняла грошы, а другі экзэмпляр рэестру адсылаецца сельскаму савету па месцы знаходжаньня застрахаванай маемасьці платнікаў.

### Паведамленьні пра становішча збору страхавых плацяжоў.

§ 14. Не пазьней 2, 12 і 22 дня месяца ўстановы, якія прымаюць грошы, паведамляюць райвыканкому (Гарфа) пра паступіўшыя па сельскіх і местачковых саветах (горадох) акладныя плацяжы ў касу ў працягу дэкады.

Райвыканкомы і гарсаветы, не пазьней 4, 14 і 24 дня кожнага месяца ўключаюць у тэлеграмы, якія пасылаюцца НКФ, аб ходзе паступленьняў с.-г. падатку і пра паступіўшыя страхавыя плацяжы за ўвесь час з пачатку акладной кампаніі (нарастаючымі падрахункамі).

### Перавод атрыманых грошай Праўленьню Дзяржстраху БССР

§ 15. Паступіўшыя сумы страхавых плацяжоў як ад сельскіх і местачковых саветаў, так і непасрэдна ў касы ўстаноў, якія прымаюць страхавыя плацяжы, здаюцца гэтымі ўстановамі ў мясцовасьцях, дзе ёсьць установы Дзяржаўнага Банку (аддзяленьні, агэнцтвы, касы) для пераводу гэтых грошай на бягучы рахунак № 66 Праўленьня Дзяржаўнага Страхаваньня БССР у Беларускай К-ры Дзяржбанку ў гор. Менску, у дзень наступленьня грошай у касу. У іншых мясцовасьцях грошы здаюцца раённаму крэдытнаму таварыству, як карэспандэнту Дзяржаўнага Банку ў раёнах, для пераводу гэтых грошай на бягучы рахунак Праўленьня Дзяржстраху БССР № 66.

Зам. Народнага Камісара Фінансаў БССР **Л. Бунін.**

Час. вык. аб. Старшыні Праўленьня Дзяржстраху БССР **Стахееў.**

**29 жніўня 1930 г.**
**г. Менск.**

## Абежнік Народнага Камісарыяту Унутраных спраў БССР.

**Паст. 160. Пра зьмену ставак збору за візы на выезд з СССР з пэрсіцкіх грамадзян.**

***Начальнікам адміністрацыйных аддзелаў райвыканкому і гарсаветаў.***

Народны Камісарыят Унутраных Спраў БССР паведамляе для кіраваньня, што на падставе арт. 17 інструкцыі НКФ СССР за 1929 г. № 15 і ў дапаўненьне да арт. 12 абежніку НКУС № 64 за 16/IX-1929 г. (Бюл. СНК БССР 1930 г. № 1) збор за візы на выезд за граніцу для пэрсіцкіх грамадзян устаноўлены ў разьмере 25 руб.

За Народнага Камісара Унутраных Спраў БССР **С. Якубчык.**

**20 жніўня 1930 г.**
**№ 70.**

---

Адказны Рэдактар **С. Лодысеў.**

# ПАПРАЎКІ.

У Бюл. СНК БССР 1930 г. № 18, у абежніку НКЮ БССР „Пра падсуднасьць спраў аб сацыяльна-небясьпечных дзеяньнях, зьвязаных з захаваньнем дробнай звонкай манэты“ трэба зрабіць наступныя папраўкі:

1) Стар. 16, 2-гі радок зьверху, надрукавана: „арт 68 Крым. Код.“, а трэба „арт. 69 Крым. Код.“.
2) На тэй жа старонцы, 8-ы радок зьверху надрукавана: „прадугледжаныя арт. 60 Крым. Код“., а трэба: „прадугледжаныя арт. 69 Крым. Код.“.

Галоўлітбел № 1572. Друк. Кіраўніцтва Спраў СНК і Эк. Нар. Заказ № 8—4500 экз.

